# ЗВЯЗДА



6 сакавіка 1998 г. пятніца, № 51 (23402)

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● кошт 3000 рублёў

## РОЗГАЛАС

*ПАДРАБЯЗНАСЦІ*

### НА ПАЛЕССІ ЗНОЎ ПАГАСПАДАРЫЎ УРАГАН

**З непрыемнасцяў пачалася вясна для многіх гаспадарак Столінскага і Лунінецкага раёнаў. Як высветлілася, моцны вецер, што пранёсся ў ноч на першае сакавіка над гэтым палескім рэгіёнам, прынёс нямала бед. Яго напору не вытрымалі сенасховішчы, зернесушыльныя комплексы, жывёлагадоўчыя фермы.**

На Століншчыне, як паведамілі карэспандэнту БЕЛТА ў раённым штабе грамадзянскай абароны, ад стыхіі пацярпела дзевяць гаспадарак. У калгасе «1 Мая» з дахаў сельскагаспадарчых будынкаў знесена 300 лістоў шыферу, а ў калгасе імя Суворава поўнасцю разбурана сенасховішча. Паводле папярэдніх прыкідак, у гэтым раёне толькі прамы ўрон складае два мільярды рублёў.

Ураган пагаспадарыў і ў суседнім Лунінецкім раёне. Для вызначэння памеру ўрону туды выехала спецыяльная камісія абласнога штаба грамадзянскай абароны.

На шчасце, абышлося без чалавечых ахвяр. Пакуль не паступала і масавых скаргаў ад насельніцтва на вялікія разбурэнні прысядзібных пабудоў. І толькі ў мнагадзетнай сям'і Сібіраковых са столінскай вёскі Альпень вельмі пацярпеў жылы дом. Цяпер там, як і на аб'ектах гаспадарак, пачаліся аднаўленчыя работы.

**Іван КУКСА, БЕЛТА.**

### АХВЯРА ВЯДОМА, ПРЫЧЫНА — НЕ

**Аб гэтым выпадку газета ўжо пісала, тым не менш новыя акалічнасці трагедыі, якая адбылася 16 лютага на шашы Зябраўка—Гомель, вымушаюць звярнуцца да тэмы яшчэ раз.**

Зараз, па ўдакладненай інфармацыі, застаецца канстатаваць як факт тое, што ахвярай здарэння аказалася 38-гадовая жанчына, начальнік перасовачнага аддзялення сувязі Гомельскага раённага вузла.

Сітуацыя выглядала прыкладна так. Аўтамабіль сувязістаў, у якім знаходзіліся вадзіцель і начальнік перасовачнага аддзялення сувязі, па дарозе ў Гомель сутыкнуўся з аўтамабілем «Аудзі», прычым іншамарка па пакуль не высветленай да канца прычыне (магчыма, ёй сталі дрэнныя ўмовы надвор'я) выехала на сустрэчную паласу руху.

Зрэшты, следства па факту гэтага дарожна-транспартнага здарэння працягваецца, таму рабіць якія-небудзь канчатковыя высновы пакуль яшчэ рана.

**Сяргей ГРЫБ.**

### ПРЭЗІДЭНТ ВАЛДАС АДАМКУС СУСТРЭЎСЯ З ПАСЛОМ ЛІТВЫ Ў БЕЛАРУСІ

**Прэзідэнт Валдас Адамкус, які 4 сакавіка сустрэўся з паслом Літвы ў Беларусі Віктарасам Баўблісам, азнаёміўся з цяперашнім станам адносінаў сваёй краіны з гэтай дзяржавай.**

Ён папрасіў В.Баўбліса інфармаваць аб падрыхтоўцы дагавора аб рэадмісіі з Беларуссю і магчымым падпісанні дакумента. Паводле слоў дыпламата, дагавор ужо даўно гатовы і яго падпісанне залежыць толькі ад волі кіраўнікоў абедзвюх дзяржаў. В.Адамкус заявіў, што гатоў падпісаць дагавор аб рэадмісіі з Мінскам і спадзяецца на такі ж падыход і з боку прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі.

На сустрэчы не абмяркоўвалася падрыхтоўка візіту В.Адамкуса ў Беларусь або наведванне Літвы высокапастаўленымі асобамі гэтай дзяржавы.

**ЭЛЬТА-БЕЛТА.**

*ПРЫВАТЫЗАЦЫЯ*

### ХОДЗЯЦЬ ЧУТКІ, ШТО... ЧЭК «МАЁМАСЦЬ» БУДЗЕ ЗНОЎ У ПАШАНЕ

**Кожны тыдзень у рэдакцыю прыходзіць некалькі лістоў з адзіным пытаннем: што рабіць з чэкамі «Маёмасць»? Магчыма проста прадаць іх за бесцань першаму ж дзядзьку з вуліцы. Але, з іншага боку, лепш абмяняць чэкі на акцыі ў Ашчадбанку ці нават аднесці ў які-небудзь інвестфонд. Спадарыня Пляшко з вёскі Лінск нават зусім разгубілася. У Ляхавіцкім раёне няма прыватызаваных прадпрыемстваў, а набываць акцыі незнаёмых гаспадарак, па яе меркаванню, справа вельмі рызыкоўная. У Ашчадбанку прапануюць набываць акцыі адных і тых жа прадпрыемстваў ужо на працягу доўгага часу. Атрымліваецца і сапраўды адкрытае пытанне: што з гэтымі чэкамі рабіць?**

***Каб праясніць сітуацыю вакол чэкаў, карэспандэнт звярнуўся з гэтымі пытаннямі да начальніка галоўнага ўпраўлення абарачэння каштоўных папер Міндзяржмаёмасці Зінаіды ШАЎЧЭНКА.***

Па словах Зінаіды Сямёнаўны, сёння ва ўсіх раённых філіялах ААБ «Беларусбанк» ёсць акцыі не менш чым 15 прыватызаваных прадпрыемстваў. У цэлым па краіне грамадзянам прапануюць акцыі гаспадарак, якія могуць быць абменены на 21 мільён чэкаў. Так, напрыклад, у Ляхавіцкім раёне на чэкі абменьваюцца акцыі 17 акцыянерных таварыстваў. Сярод іх добра вядомыя Пінскі камбінат будаўнічай індустрыі, Брэсцкае прадпрыемства «Палессежылбуд» і гэтак далей. Акрамя таго ў раённых філіялах Ашчадбанка ў абмен на чэкі «Маёмасць» грамадзянам прапануюць акцыі таварыстваў камунальнай уласнасці мясцовага падпарадкавання.

У той жа час Зінаіда Шаўчэнка пацвердзіла, што ўжо на працягу года ў абмен на чэкі «Маёмасць» насельніцтву не прапануюцца акцыі новых прыватызаваных прадпрыемстваў. Па праўдзе кажучы, зараз ідзе продаж за чэкі акцый тых гаспадарак, якія ўжо каля года не маюць вялікага попыту ў насельніцтва. Але ўжо ў хуткім часе такое становішча ў чэкавай прыватызацыі будзе зменена. Па меркаванню Зінаіды Шаўчэнкі, у красавіку гэтага года Міндзяржмаёмасць плануе прапанаваць насельніцтву ў абмен на чэкі акцыі яшчэ каля 80 акцыянерных таварыстваў — болей чым 14 мільёнаў чэкаў. Сёння ж становішча спраў ў чэкавай прыватызацыі такое: чэкі «Маёмасць» атрымалі крыху меней як 5 мільёнаў чалавек. Імі было атрымана каля 430 млн. чэкаў, з якіх больш чым 90 мільёнаў патрачана на набыццё акцый. Аднак болей як 330 млн. чэкаў усё яшчэ застаецца на руках у насельніцтва. Зараз назіраецца даволі слабы попыт на акцыі прыватызаваных прадпрыемстваў. Людзі купляюць іх на суму не больш як 1 млн. чэкаў у месяц.

Па дзеючаму сёння заканадаўству, абарачэнне чэкаў «Маёмасць» працягнецца да 1 ліпеня 1999 года. Потым дзяржава павінна будзе выкупляць іх у насельніцтва, у тэрмін да 2000 года, па кошту 35 тысяч рублёў за чэк.

**Сяргей КУРКАЧ.**

### КУРСЫ АБМЕНУ НАЯЎНЫХ ВАЛЮТ У КАМЕРЦЫЙНЫХ БАНКАХ І АФІЦЫЙНЫ КУРС, УСТАНОЎЛЕНЫ НАЦЫЯНАЛЬНЫМ БАНКАМ НА 5 САКАВІКА 1998 г. (па стану на 15.00)

| Назва банка | USD | | DM | | RUR | | Тэлефон для даведак |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Купля | Продаж | Купля | Продаж | Купля | Продаж | |
| Мінск (0-17) | | | | | | | |
| Абсалютбанк | 44400 | 45000 | 24200 | 24800 | 7200 | 7400 | 263-6080 |
| Белаграпрамбанк | 43500 | | 24000 | | 7100 | | 228-5716 |
| Нацыянальны банк РБ (курс для безнаяўных разлікаў) | 32020.00 | | 18215.92 | | 5440.00 | | Курс на 6.03.1998 |
| Цэнтрабанк Расіі | 6.0790 | | 3.3454 | | 10000 BLR - 1.1469 | | |

*На працягу дня ўстаноўленыя курсы могуць мяняцца, курсы галаўнога ўпраўлення банка могуць неістотна адрозніваццa ад курсаў, устаноўленых у абменных пунктах. Інфармацыя атрымана ад галоўных упраўленняў негандлёвых аперацый адпаведных банкаў.*

**Агенцтва ГРАЎЦОВА.**

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| пазабіржавы міжбанкаўскі курс | 53000 | 53500 | 29249 | 29533 | 8730 | 8814 | |

*КРЫМІНАЛ*

### ПА ГАРАЧЫХ СЛЯДАХ

**Першага сакавіка а дзесятай гадзіне вечара ў Ельскі райаддзел унутраных спраў звярнуўся экспедытар адной з фірмаў горада Смаргоні: гадзіну таму недалёка ад пагранічнага пераходу на Украіну двое невядомых, пагражаючы нажом, патрабавалі «таксу»: маўляў «грошы на бочку», інакш будуць прабіты ўсе колы «МАЗа», на якім ён з вадзіцелем вязуць груз.**

Экспедытар вымушаны быў падпарадкавацца, аддаўшы рэкецірам (ці рабаўнікам — як іх тут назавеш?) пяцьдзесят амерыканскіх долараў.

На месца здарэння адразу ж выехала аператыўна-следчая група, якую ўзначаліў начальнік РАУС Уладзімір Манжос. Яна ўстанавіла, што тыя двое пагражалі яшчэ чатыром вадзіцелям рэфрыжэратараў і забралі грошы ў латыша і ўкраінца. А ў якасці «супакаення» сказалі ім, што калі яшчэ нехта паспрабуе патрабаваць з іх «аброк» за перасячэнне беларускай мяжы, няхай яны спашлюцца на «Гадзюку» і «Кактуса», у якіх яны ўжо прайшлі «кантроль».

Па гарачых слядах міліцыя пачала пошук зламыснікаў, якія ўжо некуды зніклі на сваёй іншамарцы. І знайшлі іх. Апазнанне праводзілі з удзелам пацярпелых вадзіцеляў і экспедытара, якія і пацвердзілі сказанае вышэй на вочнай стаўцы. Рабаўнікамі аказаліся жыхары Мазыра, адзін з якіх раней быў судзімы. Узбуджана крымінальная справа.

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**

### ФІРМАЧ-МАХЛЯР

У Брэсце супрацоўнікам міліцыі ўдалося вывесці на чыстую ваду работніка адной з камерцыйных фірмаў. Як выявілася, прайдзісвету ўдалося махлярскім шляхам «выцыганіць» на 750 мільёнаў рублёў гаруча-змазачных матэрыялаў. Ахвярай злачынцы стаў аэрапорт «Брэст», з тэрыторыі якога ён і забраў паліва. Зараз супраць махляра ўзбуджана крымінальная справа.

**Ігар ГРЫШЫН.**

### ЗЛАЧЫНЦА Ў ДЗВЮХ ДЗЯРЖАВАХ

**У верасні мінулага года ў горадзе Хімкі Маскоўскай вобласці было ўчынена злачынства: задушаны мужчына, труп спалены, кватэра ахвяры абрабавана на 20 тысяч долараў.**

Расійскія праваахоўныя органы атрымалі інфармацыю аб знаходжанні ў Магілёве падазраваемага ў злачынстве. Днямі супрацоўнікі ўпраўлення крымінальнага вышуку УУС Магілёўскага аблвыканкама і Міністэрства ўнутраных спраў Расіі пры садзейнічанні АМОНа правялі ў абласным цэнтры сумесную аперацыю. Падазраваемы — 43-гадовы жыхар Масквы, неаднаразова судзімы — быў затрыманы на кватэры ў палюбоўніцы. Пры арышце ў яго быў знойдзены наган і дзесяць патронаў.

Затрыманы будзе прыцягнуты да крымінальнай адказнасці і ў Беларусі за незаконнае захоўванне зброі. Акрамя гэтага, наша міліцыя зараз праводзіць праверку на прадмет дачынення да іншых злачынстваў, якія былі ўчынены на тэрыторыі Магілёўскай вобласці.

**Ілона ІВАНОВА.**

### ПЕРАКРЫТЫ ЯШЧЭ АДЗІН КАНАЛ ПАДНЯВОЛЬНАГА «ЭКСПАРТУ» БЕЛАРУСКІХ ДЗЯЎЧАТ ЗА МЯЖУ

**Супрацоўнікі Упраўлення па Віцебскай вобласці Камітэта па арганізаванай злачыннасці і карупцыі пры МУС рэспублікі перакрылі канал гвалтоўнага вывазу віцяблянак для заняцця прастытуцыяй у Маскве.**

Сутэнёраў — непрацуючую жыхарку Віцебска і масквіча — затрымалі на месцы злачынства, калі яны, пагражаючы распраўай, спрабавалі пасадзіць у аўтамабіль чарговых ахвяр.

Гэта не адзіны выпадак міжнароднага секс-гандлю, выяўлены на Віцебшчыне ў гэтым годзе. У лютым была затрымана жыхарка Оршы, якая займалася ў горадзе вярбоўкай прастытутак і адпраўкай іх у Польшчу для работы ў начных клубах. Як паведамілі карэспандэнту БЕЛТА ў прэс-цэнтры ўпраўлення ўнутраных спраў Віцебскага аблвыканкама, «свацці» з Оршы прад'яўлена абвінавачанне ў зводніцтве і ўцягванні непаўналетніх у прастытуцыю. Групамі па пяць—сем чалавек дзяўчат перапраўлялі ў польскі горад Губін і прадавалі па 600—1000 дойчмарак за кожную ўладальнікам начных клубаў для аказання сэкс-паслуг.

Беларускай міліцыі сумесна з паліцыяй Польшчы ўдалося спыніць дзейнасць міжнароднай злачыннай групы. З бардэляў Губіна было вызвалена каля 30 дзяўчат.

**Вольга СІДАРОВІЧ, БЕЛТА.**

## НА ДЗЯРЖАЎНУЮ ДАПАМОГУ РАЗЛІЧВАЙ, АЛЕ І САМ НЕ «СПІ Ў ШАПКУ»

**Другі дзень рэспубліканскай нарады па пытаннях работы аграпрамысловага комплексу пачаўся з даклада прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі, які працягваўся больш за дзве гадзіны з уласцівымі кіраўніку дзяржавы адступленнямі ад тэксту. У бліжэйшым нумары «Звязды» даклад будзе надрукаваны. Пакуль жа, па гарачых слядах, звярнем увагу на некаторыя прынцыповыя моманты**

Галоўная задача — устойлівы рост і павышэнне эфектыўнасці сельскагаспадарчай вытворчасці. Да заканчэння тэрміну паўнамоцтваў прэзідэнта і «вертыкалі» (2001 год) краіна павінна выйсці на ўзровень савецкіх часоў. Па словах прэзідэнта, будучыня належыць буйной калектыўнай гаспадарцы. А пытанне прыватнай уласнасці на зямлю не падлягае абмеркаванню, яго можа вырашыць толькі рэферэндум.

Аляксандр Лукашэнка пакрытыкаваў мясцовыя органы ўлады за тое, што яны адышлі ад уплыву на ўзаемаадносіны паміж калгасамі і перапрацоўшчыкамі іх прадукцыі, цэнаўтварэння: «Трэба прымусіць усіх, хто вакол сяляніна, працаваць на гэтага селяніна». Задача мясцовых органаў улады — разабрацца з усёй сістэмай цэнаўтварэння, зняць неабгрунтаваныя «накруткі», якія кладуцца на сельгаспрадукцыю і, у рэшце рэшт, на насельніцтва.

На думку прэзідэнта, пакуль яшчэ няма канцэптуальнага падыходу да праблемы «ляжачых» гаспадарак — гэта пытанне будзе спецыяльна разглядацца ў красавіку. Кіраўніцтва краіны падтрымае любую жывую ініцыятыву з месцаў і «не трэба ўсіх стрыгчы пад адзін грэбень». Цяжкасці аб'ектыўнага характару — патрэбны меры дзяржаўнай падтрымкі. У безнадзейнай сітуацыі не выключана і банкруцтва, але прэзідэнт не лічыць, што гэта будзе насіць абвальны характар.

Па словах Аляксандра Лукашэнкі, падпісаныя ім напярэдадні гэтай нарады ўказы каштуюць дзяржаве 15 трыльёнаў рублёў: «Больш — нельга, бо трэба залезці ў кішэню настаўніка, а браць грошы з паветра мы не можам».

Прэзідэнт адзначыў, што неабходна змяніць парадак выкарыстання сродкаў з рэспубліканскага фонду падтрымкі сельгасвытворцаў. Грошы павінны выдзяляцца не на гектар зямлі, а прапарцыянальна выробленай прадукцыі, у выглядзе надбавак да закупачнай цаны. Канешне, выкарыстоўваючы каэфіцыент з улікам урадлівасці глебы.

Гаворачы аб фермерах, прэзідэнт сказаў, што яны не выратуюць Беларусь, але стрымліваць гэты рух нельга. Фермеру трэба дапамагчы, але і спытаць з яго за эфектыўнае выкарыстанне зямлі.

Былі названы арыенціры на сёлетні год. Прырост сельскагаспадарчай прадукцыі — не менш як 5 працэнтаў. Збожжа — 6 мільёнаў 700 тысяч тон, бульба — 10 мільёнаў тон, малако — 5 мільёнаў 270 тысяч кілаграмаў, мяса — 968 тысяч тон. У кожнай гаспадарцы неабходна пабудаваць не менш як 4-5 кватэр.

Дарэчы, у прамове прэзідэнта закраналіся не толькі пытанні сельскагаспадарчай вытворчасці. У прыватнасці, са слоў Аляксандра Лукашэнкі вынікала, што нейкі культ, які часам ствараецца вакол яго асобы, яму абсалютна не патрэбны.

У кулуарах нарады карэспандэнт «Звязды» пагутарыў з некаторымі яе ўдзельнікамі.

***Уладзіслаў ЦЫДЗІК, начальнік аддзела кормавытворчасці Міністэрства сельскай гаспадаркі:***

— Вялікая ўвага ў дакладзе нададзена кармавой праблеме, таму што за кошт кармоў на 70—80 працэнтаў фарміруецца вытворчасць жывёлагадоўчай прадукцыі, а гэта — экспартны патэнцыял нашай краіны. У выніку нізкай якасці кармавых рэсурсаў мы страчваем каля 140 тон кармавога бялку. Таму ўдзельнікам нарады было вельмі карысна павучыцца ў лепшых гаспадарнікаў. Напрыклад, у СКП «Кастрычнік» Гродзенскага раёна вырабляюць такі цудоўны кукурузны сілас, які па якасных паказчыках у 1,7 раза пераўзыходзіць нарматывы.

Рашаючы фактар у атрыманні высакаякасных кармоў — аснашчанасць надзейнай кормаўборачнай тэхнікай. А каб не было суб'ектыўных ацэнак якасці кармоў, раённыя аграхімічныя лабараторыі (створаныя за кошт гаспадарак, якія гэтымі лабараторыямі правяраюцца) зрабіць дзяржаўнымі арганізацыямі. Дарэчы, у Віцебскай вобласці скарацілі дванаццаць лабараторый. Хіба гэта па-дзяржаўнаму?

***Сяргей ТАРАСЕВІЧ, старшыня Пружанскага райвыканкама:***

— Падпісаныя днямі прэзідэнтам указы па сельскай гаспадарцы вельмі актуальныя. Аднак нельга сядзець склаўшы рукі, у адной надзеі на дзяржаўныя грошы. Многія проста забылі пра механізацыю і аўтаматызацыю працэсаў у сельскай гаспадарцы. Цяпер мы будуем малочнатаварную ферму на 200 галоў па галандскай тэхналогіі. Абслугоўваць яе будуць тры чалавекі, а надоі чакаюцца па 7-8 тысяч кілаграмаў ад каровы. Трэба шукаць і задзейнічаць усё самае эфектыўнае, інакш на рынку не пражывеш.

***Уладзімір РОЎБЕЛЬ, старшыня калгаса «Чырвоны сцяг» Асіповіцкага раёна.***

— Удзельнічаў у рабоце секцыі земляробства і хімізацыі, якая праходзіла ў СКП «Кастрычнік». Усё тут на вышэйшым узроўні — дысцыпліна, чысціня і парадак. Хаця і не па тэме было, але папрасіў падзяліцца вопытам калгаснага заатэхніка. Парасят трымаюць на мяккай падсцілцы — затраты мінімальныя. Кармавая база — толькі пазайздросціць, усе кармы ў памяшканнях. Адным словам, ёсць гаспадар — будзе і справа.

***Аляксандр УНУКОВІЧ, начальнік упраўлення сельскай гаспадаркі Чашніцкага райвыканкама:***

— Пабываў у калгасе «Прагрэс» Гродзенскага раёна. У нас раён прадаў 1,5 тысячы тон мяса, а ён адзін — у некалькі разоў больш. Такіх гаспадарак я яшчэ не бачыў і шмат чаму цяпер магу павучыцца. У прыватнасці, тэхналогіі догляду за буйной рагатай жывёлай, якая дазваляе скараціць тэрміны адкорму.

Згодзен з прэзідэнтам, што дзяржаўныя датацыі павінны выдзяляцца не на гектар пашы, а пад канкрэтную прадукцыю. А што датычыцца падпісаных напярэдадні нарады ўказаў, дык лічу, што адтэрміноўка даўгоў палепшыць фінансавы стан многіх гаспадарак. Тых, канешне, хто і сам не «спіць у шапку».

Пасля завяршэння нарады адбылася прэс-канферэнцыя Аляксандра Лукашэнкі, на якой закраналіся не толькі аграрныя, але і іншыя пытанні. У прыватнасці, прэзідэнт сказаў, што ён не баіцца выбараў у 1999 годзе, да якіх заклікае апазіцыя. Але гэта будзе парушэннем Канстытуцыі, якую падтрымаў народ. Таму выбары і прэзідэнта, і парламента адбудуцца ў тэрмін, які вызначаны Канстытуцыяй.

**Барыс ПРАКОПЧЫК.**



Цікаўнасць

Фота IREX/ProMedia.

## ХІМІЯ. НАФТА І ГАЗ-98

**Сёння апошні дзень работы міжнароднай спецыялізаванай выстаўкі «Хімія. Нафта і газ», якая працуе ў Мінску з 3 сакавіка ў павільёне Рэспубліканскага выставачнага комплексу па праспекце Машэрава, 14.**

Звяртаючыся да ўдзельнікаў выстаўкі з прывітальным словам, намеснік прэм'ер-міністра Валерый Кокараў зазначыў, што ўрад рэспублікі, які падтрымаў прапанову зацікаўленых міністэрстваў і ведамстваў аб правядзенні гэтай выстаўкі, разлічвае на тое, што яна будзе садзейнічаць развіццю міжнароднай кааперацыі, прыцягненню ў хімічную і нафтагазавую галіны рэспублікі інвестыцый, укараненню найноўшых тэхналогій і абсталявання. А абмен думкамі паміж вучонымі, спецыялістамі, работнікамі органаў дзяржаўнага кіравання на навукова-практычным семінары пасадзейнічае распрацоўцы доўгатэрміновай праграмы развіцця хімічнага і нафтагазавага комплексаў Рэспублікі Беларусь з улікам вопыту іншых краін.

Зрэшты, відаць, нямала ўзялі замежныя ўдзельнікі выстаўкі і з нашага вопыту. Рэспубліка была прадстаўлена на ёй многімі буйнейшымі канцэрнамі і аб'яднаннямі, прадпрыемствамі, якія добра вядомыя не толькі ў нас. У ёй, у прыватнасці, узялі ўдзел канцэрн «Белнафтахім» і ўваходзячыя ў яго магілёўскае, светлагорскае і гродзенскае «Хімвалакно», «Беларуськалій», канцэрн па вытворчасці і рэалізацыі фармацэўтычнай і мікрабіялагічнай прадукцыі, вядучыя інстытуты Нацыянальнай акадэміі навук і многія іншыя. І можна меркаваць, найбольшая цікавасць наведвальнікаў выстаўкі была выказана менавіта да стэндаў беларускіх прадпрыемстваў. Напрыклад, да стэнда полацкага аб'яднання «Шкловалакно», якое выпускае самую разнастайную прадукцыю на аснове шкловалакна, прычым асобныя матэрыялы, вырабленыя ў Полацку, выкарыстоўваюцца ў такіх галінах, як атамная энергетыка і ракетабудаванне.

Шырокі асартымент прадставіла лідскае акцыянернае таварыства «Лакафарба». Як зазначыла прадстаўнік гэтага прадпрыемства, многія віды яго прадукцыі не ўступаюць замежным узорам, што, дарэчы, пацвярджаюць і міжнародныя ўзнагароды, якія мае АТ, але пакуль што слабым месцам з'яўляецца ўпакоўка (дакладней яе знешні выгляд); прадпрыемству не шкодзіла б прайсці сертыфікацыю на адпаведнасць міжнародным стандартам ІСО 9000.

Гродзенскі завод «Белуторпалімер», напэўна, самае маладое прадпрыемства з айчынных удзельнікаў выстаўкі — ён заснаваны ў 1990 годзе. Як зразумела ўжо, завод збірае і перапрацоўвае другасную сыравіну (або палімерныя адходы), пры гэтым ён мае шэраг дагавораў з іншымі прадпрыемствамі на пастаўку такіх адходаў. З апошніх жа на «Белуторпалімеры» атрымліваюць поліэтыленавую плёнку і вырабы з яе, трубы поліэтыленавыя напорныя, а таксама трубы электратэхнічныя гафрыраваныя, сантэхнічныя вырабы, скрынкі для бутэлек і інш. Прадпрыемства выпускае толькі тавараў народнага спажывання больш як 50 відаў; яго прадукцыя экспартуецца ў Галандыю, Германію, Польшчу, Расію... На прадпрыемстве робяць грошы з таго, што літаральна валяецца пад нагамі, прычым яго дзейнасць мае і чыста экалагічнае значэнне. У параўнанні з першым годам работы гродзенскі «Белуторпалімер» павялічыў аб'ёмы (у натуральным выражэнні) у 15 разоў...

Хімічны і нафтагазавы комплексы — важнейшыя галіны эканомікі рэспублікі, падкрэсліў у прывітальным слове Валерый Кокараў, у агульным аб'ёме вытворчасці іх прадукцыя складае звыш 13 працэнтаў, займае адну трэцюю частку экспарту і дае дзяржаве больш як адну трэць валютных паступленняў.

**Іван БАРАНОЎСКІ.**

### САЮЗУ ПАТРЭБЕН ПРАВАПАРАДАК

**Само жыццё патрабуе ад праваахоўных органаў Беларусі і Расіі кансалідацыі ў барацьбе са злачыннасцю. І галоўнае, чым хутчэй сёння будуць аднолены адзіныя рычагі ўзаемадзеяння, тым лягчэй будзе заўтра. Пакуль прагнозы развіцця крыміногеннай абстаноўкі ў Беларусі і Расіі як у саюзе несуцяшальныя**

Аб мерах па ўзаемадзеянню міністэрстваў унутраных спраў — удзельнікаў Саюза Беларусі і Расіі — гаварылася на першым пасяджэнні Аб'яднанай калегіі МУС Беларусі і Расіі 4 сакавіка ў Мінску.

Расійскую дэлегацыю ўзначальваў міністр унутраных спраў генерал арміі Анатоль Кулікоў, беларускую ж — міністр унутраных спраў Агалец.

На калегіі былі адзначаны першыя важкія вынікі сумеснай папераджальнай работы. Толькі за апошнія пяць месяцаў раскрыта каля 200 злачынстваў, канфіскавана ў злачынцаў грашовых сродкаў і матэрыяльных каштоўнасцяў на суму 1,2 мільярда расійскіх рублёў. Актывізавалася работа падраздзяленняў міліцыі прыгранічных абласцей. Напрыклад, сумеснымі намаганнямі ў Смаленскай вобласці спынена дзейнасць 13 арганізаваных злачынных груп. Але трэба рухацца наперад.

Няўхільна прытрымлівацца выпрацаванай стратэгіі, уніфікаваць шэраг нарматыўна-прававых дакументаў, якія датычацца не толькі праблем барацьбы за злачыннасцю, але і рэгістрацыі аўтатранспарту, дазвольнай сістэмы. Прынята рашэнне аб рэгулярным правядзенні пасяджэнняў Аб'яднанай калегіі МУС Беларусі і Расіі.

**Васіль КУРЛОВІЧ.**

*ФУТБОЛ*

*ЕЎРАПЕЙСКІЯ КУБКІ*

### Масквічы і кіяўляне робяць заяўку на паўфінал

**Учора позна ўвечары завяршыліся чвэрцьфінальныя матчы розыгрышу Кубка уладальнікаў кубкаў. Аб іх выніках мы паведамім ў бліжэйшым нумары газеты. Напярэдадні ж прайшлі першыя гульні ў Лізе чэмпіёнаў і ўсе завяршыліся ўнічыю.**

Баер (Леверкузен, Германія) — Рэал (Мадрыд, Іспанія) — 1:1

Ювентус (Турын, Італія) — Дынама (Кіеў, Украіна) — 1:1

Баварыя (Мюнхен, Германія) — Барусія (Дортмунд, Германія) — 0:0

Манака (Монтэ-Карла, Манака) — Манчэстэр юнайтэд (Манчэстэр, Англія) — 0:0

Матчы ў адказ пройдуць 18 сакавіка.

У аўторак праходзілі чвэрцьфінальныя паядынкі розыгрышу Кубка УЕФА. У адрозненне ад турніру Лігі чэмпіёнаў тут няма ніводнага нічыйнага выніку.

Аякс (Ротэрдам, Галандыя) — Спартак (Масква, Расія) — 1:3

Лацыо (Рым, Італія) — Осер (Осер, Францыя) — 1:0

Інтэр (Мілан, Італія) — Шальке-04 (Германія) — 1:0

Атлетыка (Мадрыд, Іспанія) — Астан Віла (Бірмінгем, Англія) — 1:0

Матчы ў адказ адбудуцца 17 сакавіка.

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

*З НАГОДЫ*

## ДАЎГІ ПА ЗАРПЛАЦЕ РАСТУЦЬ

### *Тым часам прафсаюзы прапаноўваюць павялічыць памеры аплаты працы*

**У першыя дні сакавіка зноў нагадала аб сабе праблема заробкаў. Паводле інфармацыі, якую прадаставіла нам Міністэрства статыстыкі і аналізу, з пачатку года ў Беларусі значна пагоршылася сітуацыя з выплатай зарплат. Так, у параўнанні з канцом снежня, агульная запазычанасць павялічылася больш чым у паўтара раза і перавысіла 1 трлн. рублёў. Адметна, што даўгі ўзраслі па ўсіх асноўных галінах гаспадаркі, прычым не стала выключэннем нават адносна стабільная апошнім часам бюджэтная сфера. Аднак найгоршыя справы па-ранейшаму на вёсцы — сёння прыкладна дзве трэці ўсіх неплацяжоў у краіне прыпадае менавіта на калгасы і саўгасы.**

**Па каментарый карэспандэнт «Звязды» вырашыў звярнуцца да загадчыка сацыяльна-эканамічнага аддзела Федэрацыі прафсаюзаў Івана ГУРСКАГА.**

**— Як можна ацаніць цяперашнюю сітуацыю з выплатамі заробкаў? Наколькі маюць пад сабой падставы змрочныя прагнозы?**

— Каля мяжы ў 1 трлн. рублёў мы знаходзіліся толькі ў сярэдзіне 1996 года. Тады, нагадаю, рэзка ўзрасла сацыяльная напружанасць у грамадстве, таму цяперашні стан спраў з выплатай заробкаў сапраўды падаецца вельмі сур'ёзным.

**— Кідаецца ў вочы, што сумнае «лідэрства» па даўгах стала трымае сельская гаспадарка. Ці ёсць тут выйсце?**

— На жаль, даўгі па зарплаце — гэта не адзіная бяда нашай вёскі. Сітуацыя ўскладняецца тым, што з 1 студзеня быў адменены ранейшы парадак падаткаабкладання, згодна з якім падаходны падатак плаціў не сам калгаснік, а гаспадарка. Да чаго прывядзе гэта новаўвядзенне, мяркуйце самі. Так, летась сярэдні заробак калгасніка складаў 1 млн. 188 тыс. рублёў; калі сёлета гэтая лічба і ўзрасла, то ненашмат. Атрымліваецца, што адмінусаваць ад цяперашняга даходу калгасніка яшчэ і падаходны падатак — значыць аднесці практычна ўсю вёску за «рысу беднасці». Лішніх каментарыяў, відаць, не трэба.

**— У такіх варунках што збіраюцца рабіць прафсаюзы?**

— Федэрацыя прафсаюзаў ужо звярнулася да ўрада з прапановай тэрмінова вырашыць праблему запазычанасці па заробках, а таксама адмяніць новы парадак падаткаабкладання вяскоўцаў. Аднак гэта толькі першы крок.

Далей трэба звярнуць увагу на наступнае. Як вядома, у цэлым за студзень інфляцыя склала 3,9 працэнта. Разам з тым, калі ўзяць «карзінку» з 19 асноўных прадуктаў харчавання, то за першы месяц года яе кошт, па нашых падліках, павялічыўся на 5,5 працэнта, прычым ёсць усе падставы меркаваць, што ў лютым і сакавіку гэты рост працягнецца. Такім чынам, мы прагназіруем, што ўжо да красавіка інфляцыя «з'есць» нядаўнюю прыбаўку да заробкаў. Таму другім крокам прафсаюзаў у бліжэйшы час будзе зварот у Савет Міністраў з прапановай па выніках І квартала вярнуцца да пытання заробкаў і перагледзець цяперашнія памеры аплаты працы. Вядома, гаворка ідзе аб іх павелічэнні.

**— Але ці не здаецца вам, што павелічэнне заробкаў яшчэ больш абвострыць праблему з іх выплатай?**

— Я не быў бы такім катэгарычным. Зараз, як кажуць, няўзброеным вокам бачна, што тэмпы росту запазычанасці па зарплаце значна перавышаюць тэмп росту саміх зарплат.

**Гутарыў Сяргей ГРЫБ.**

# Супадзенне поглядаў на падзеі ў Рызе

**Жорсткі разгон рыжскай паліцыяй мітынгу старых не грамадзян Латвіі выклікаў хвалю абурэння не толькі ў Расіі. Учора на брыфінгу ў МЗС Беларусі яго кіраўнік Іван Антановіч заявіў, што міністэрства падзяляе пазіцыю МЗС Расійскай Федэрацыі аб недапушчальнасці прымянення сілы да пенсіянераў, якія пратэставалі супраць цяжкіх умоў жыцця і двухсэнсоўнага статусу без грамадзянства.**

Нагадаем: пазаўчора ўсе тэлеканалы па некалькі разоў «пракруцілі» ў эфіры здымкі расправы латвійскіх паліцэйскіх над старымі людзьмі, якія пратэставалі па прычыне непамернай для іх надзвычай сціплага сямейнага бюджэту платы за камунальныя паслугі. Пасля разліку за кватэру сродкаў на існаванне практычна не застаецца.

Што б там сёння не казалі ў сваё апраўданне латвійскія афіцыйныя асобы, але аб'ектывы тэлеаператараў засведчылі: гэта была акцыя пратэсту даведзеных да адчаю людзей сталага ўзросту. А прымяненне дубінак супраць іх выклікала натуральную і зразумелую рэакцыю ў расіян, у прыватнасці міністра замежных спраў Яўгена Прымакова. Ён вельмі рэзка ацаніў падзеі ў Рызе.

І. Антановіч на брыфінгу падкрэсліў, што МЗС Беларусі разлічвае на вырашэнне ўладамі Латвіі, іншых балтыйскіх дзяржаў праблем рускамоўнага насельніцтва ў духу рэкамендацый АБСЕ і з дапамогай тых місій, якія там сёння працуюць.

Тэма Латвіі для І. Антановіча, бадай, самая свежая. Ён толькі што наведаў яе з рабочым візітам, дзе быў прыняты прэзідэнтам, старшынёй парламента, прэм'ер-міністрам, міністрам замежных спраў. У ходзе гэтых сустрэч размова ішла і аб становішчы ў Латвіі амаль ста тысяч беларусаў. Перагаворы, па словах міністра, мелі канфідэнцыяльны характар, і таму ён не ўдаваўся ў падрабязнасці. Але заўважыў, што нам паабяцалі: правы беларусаў не будуць парушацца, і пытанне іх грамадзянства пастулова вырашыцца.

Акрамя гэтага былі абмеркаваны шляхі развіцця гандлёва-эканамічнага супрацоўніцтва, верагоднага падпісання пагаднення аб арэндзе магутнасцяў порта, сумеснай эксплуатацыі аўтадарогі і г. д.

Вернемся да падзей у Рызе. Празмерная ваяўнічасць мясцовай паліцыі ў дачыненні да пенсіянераў, яе непрафесійныя дзеянні даюць у рукі Масквы выдатны козыр: у чарговы раз узняць пытанне ў міжнародных арганізацыях аб дыскрымінацыі рускамоўнага насельніцтва. Пытанне, якое ўжо даўно Захаду набіла аскому, бо яму ўсё цяжэй закрываць вочы на парушэнні элементарных правоў значнай часткі насельніцтва балтыйскіх дзяржаў, займацца вынаходніцтвам аргументаў у абарону іх уладаў.

**Леанід ЛАХМАНЕНКА.**

# СТУДЭНТАЎ ЖУРФАКА ЧАКАЮЦЬ ЗАМЕЖНЫЯ КАМАНДЗІРОЎКІ

Факультэт журналістыкі БДУ абляцела добрая вестка: рэдакцыя газеты «Туризм и отдых» абвясціла конкурс на лепшы журналісцкі матэрыял, апублікаваны на старонках гэтага выдання. Як паведаміў галоўны рэдактар газеты Сяргей Плыткевіч, пераможца конкурсу атрымае імянную стыпендыю газеты «Туризм и отдых» на 1998/99 навучальны год. Другая і трэцяя прэміі, адпаведна, — творчыя камандзіроўкі ў Будапешт і Прагу. Вынікі конкурсу будуць падведзены на традыцыйнай восеньскай Вялікай студэнцкай «лятучцы». Такім чынам паглыбляюцца творчыя сувязі журфака БДУ не толькі з дзяржаўнымі, але і недзяржаўнымі выданнямі.

**Наш кар.**

# КАЛЕГА НАПІСАЎ КНІЖКУ ЎСПАМІНАЎ...

**Аркадзь Апанасавіч Тоўсцік, былы рэдактар «Звязды», на пачатку сакавіка наведаў рэдакцыю. Быў узрушаны. Прынёс з сабою стос кніжак, якія толькі што пабачылі свет — свае ўспаміны пра жыццё, пра доўгія гады працы ў прэсе, на камсамольскай і партыйнай рабоце. Некалькі гадоў таму, да юбілею А. Тоўсціка, мне даручылі напісаць пра яго артыкул. Памятаю, мы тады доўга размаўлялі, але я так у многім і не змагла зразумець чалавека, які прайшоў па ўсіх прыступках да ўлады, усвядоміць тое, што давялося яму перажыць, пераасэнсаваць.**

**Можа таму неяк «залпам праглынула» за некалькі гадзін кніжку ўспамінаў. Асобныя месцы з іх вылучыла і прапаную таксама і вам, шаноўныя чытачы.**

«У ЧАС ГЭТЫХ ПАЕЗДАК і партызанскіх сустрэч не раз узнікала недаўменне, і чаму ж уцалелі ўсё-такі Чыкілі? Рабаваць іх рабавалі, а вось не спалілі. З вёскі ніхто не пайшоў у паліцыю, а многія — у партызаны ці ўсяляк дапамагалі ім. Выстаўляліся розныя версіі, а сышліся на адной. Не ўсе ў Чыкілях глядзелі толькі ў партызанскі бок. Жыццё было больш складаным: у аднаго брат у партызанах, а ў яго жонкі, якую ён узяў аднекуль, з іншай вёскі, таксама ёсць брат, але служыць акупантам, болей за ўсё ў паліцыі. А хаты ў вёсцы — страха ў страху. «Чырвоны певень» не разбіраўся б, хто за партызан, а хто за немцаў».

«АДНОЙЧЫ РАННЯЙ ВЯСНОЙ, мабыць у сакавіку, у райком партыі прыбыла, як паведаміў Гуліцкі, тэлеграма з указаннем таварыша Сталіна забяспечыць неадкладна здачу дзяржаве воўны для патрэб арміі, каб рабіць з яе сукно для салдацкіх шынеляў. Зноў накіраваўся я ў свае Жылічы, і калі сказаў пра гэта калгасным кіраўнікам, дык тыя па-сапраўднаму ашчэрыліся: «Вы там з глузду ўсе з'ехалі». Але калі я паведаміў, што гэтага жадае таварыш Сталін, пярэчанняў ніякіх не паследавала. Раён калісьці быў пагранічным з Польшчай, і ў многіх сем'ях недалічыліся гаспадароў, якія папалі ў спісы польскіх шпіёнаў. І хто ведае, дзе яны знаходзіліся ў той час. Такое не забывалася, і ўказанне таварыша Сталіна хутка было выканана, у вызначаны тэрмін».

«МІКІТА СЯРГЕЕВІЧ аднойчы наведаўся ў Мінск. З гэтай нагоды ў оперным тэатры адбыўся сход актыву. Усе, безумоўна, хвалілі «кукурузнага» бацьку, рапартавалі, як «каралева палёў» перамаганосна шэствуе і па нашых беларускіх землях, выцясняючы тое ж жыта, лён і іншыя традыцыйныя культуры».

«Я НІКОЛІ НЕ ПРАСІЎСЯ на новую пасаду, ужо гаварыў, што цяжка адрываўся ад «наседжанага» месца. І ўсё ж вылучаўся на новыя пасады. Няпраўда, што калі папаў у наменклатуру, то і не выпадзеш з гэтых кіруючых сотаў. Ой, колькі іх выпадала, каго адхілялі, а то і проста праганялі, каго «з'ядала» інтрыга, а хто і сам «падстаўляўся», не вытрымаўшы аскетнага рытму жыцця партапаратчыка. Усялякае бывала. Зачастую знаходзілі «стрэлачніка», які аддуваўся за промахі сістэмы. Нейкую частку сваіх кадраў сістэма бязлітасна аддавала «на расправу», каб даказаць простаму люду, што перад законам, асабліва камуністы перад сваім статутам, усе роўныя. А калі зрабіў уразрэз з гэтым, то не чакай літасці».

«ВЕСТКА ПРА ПЕНСІЮ знайшла мяне на Чорным моры. Адвячоркам сяджу каля вады, аклікае прафесар Бабкоў. Ён толькі што прыехаў з Мінска і чуў, што... мяркуецца замена рэдактара «Звязды». ...Вярнуўся на работу, ніхто ні гу-гу... Хаця ў вялікі дом запрашаць перасталі. І толькі восенню, у кастрычніку, адбылася размова з новым сакратаром ЦК па прапагандзе і агітацыі В. Пячэннікавым...»

«ЧАС ПРЫНЁС СКЛАДАНЫЯ ВЫПРАБАВАННІ. Сістэма, якую мы будавалі больш 70 гадоў, рухнула. Для кожнага камуніста гэта, мабыць, балючы «вынік» яго дзейнасці. Не вытрымалі праверкі часам і ідэалагічныя догмы. Толькі ж для мяне, як і для многіх сумленных людзей, не настаў пасля гэтага момант нейкай фатальнай пустэчы. Мо таму, што ўжо спакваля спела расчараванне маральнай дваістасцю паводзін высокай партыйнай наменклатуры і партыйнага апарату».

**...Вось ужо нямала год Аркадзь Тоўсцік працуе ў Беларускім фондзе культуры. І вельмі ганарыцца тым, што займаецца карыснай і патрэбнай народу справай — збіраннем, захаваннем, а часта і вяртаннем нацыянальных каштоўнасцяў. Дарэчы, з выданнем кнігі ўспамінаў яму дапамаглі былыя звяздоўцы — Яраслаў Чапля і Аляксандр Санчук.**

**Таццяна АНТОНАВА.**
**Фатаграфаваў Яўген ПЯСЕЦКІ.**

## СЁННЯ

**СОНЦА**

| | Усход | Захад | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск – | 6.47 | 17.55 | 11.08 |
| Віцебск – | 6.39 | 17.44 | 11.05 |
| Магілёў – | 6.37 | 17.45 | 11.08 |
| Гомель – | 6.30 | 17.45 | 11.15 |
| Гродна – | 7.00 | 18.13 | 11.13 |
| Брэст – | 7.01 | 18.13 | 11.12 |

**МЕСЯЦ**

Першая квадра 5 сакавіка.
З 10.29 — 9-ыя месяцавыя суткі.
З 14.28 Месяц — у сузор'і Рака

**ІМЯНІНЫ**

Пр. Цімафея, Яўстафія, Георгія
К. Фрыдаліны, Калеты, Ружы

**НАДВОР'Е**

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, на большай частцы тэрыторыі ападкі. Тэмпература паветра ў Гродне і Віцебску — 0—2, Мінску і Магілёве — 1—3, Брэсце — 2—4, Гомелі — 3—5 градусаў цяпла.

У наступныя двое сутак воблачна з праясненнямі, месцамі снег, на дарогах галалёдзіца. Тэмпература ўначы — 2—7, месцамі 10—12, удзень — 0—5 градусаў ніжэй нуля.

## ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ

Жыхарка Нью-Йорка Рафаэла Санчас, вярнуўшыся ў родныя мясціны пасля паездкі ў Мексіку, падверглася ў міжнародным аэрапорце імя Кенэдзі нечаканаму нападу. Яе ўкусіў скарпіён, які невядома як забраўся ў яе паліто ў аэрапорце адпраўлення. У цяжкім стане ахвяру даставілі ў медыцынскі цэнтр, які спецыялізуецца па атручэннях. Медыкі цэнтра ніколі раней не мелі справы з захворваннем, выкліканым ядам скарпіёна. Аднак ім удалося пазбавіць жанчыну ад галюцынацый і абцяжанага дыхання з-за цяжкіх наступстваў атручэння.

**Рэйтэр.**

Напады ўзброеных падлеткаў вырастаюць у Японіі ў сур'ёзную праблему. Нядаўна на выкладчыка каледжа накінуўся незадаволены заўвагамі ў свой адрас 13-гадовы школьнік. Раны, які былі нанесены фінкай, аказаліся смяротнымі.

Не паспеў сціхнуць шум вакол гэтай гісторыі, як здарыўся другі выпадак. 15-гадовы вучань пайшоў з нажом на паліцэйскага. На допыце малалетні злачынца сказаў: «Мне так захацелася мець сапраўдны пісталет — нават калі пры гэтым прыйшлося б забіць паліцэйскага».

Цяпер у Японіі ў прынцыпе дазволены вобыскі навучэнцаў у школах.

**«Труд».**

## ПЕЛЕНГ-НАВІНЫ

**РАСІЯ НАРЭШЦЕ ПРЫНЯЛА ДЗЯРЖАЎНЫ БЮДЖЭТ**

Лідэры шэрагу думскіх фракцый Расіі крытычна ацанілі прыняты ў сераду дзяржаўны бюджэт на бягучы год. Кіраўнік фракцыі «Яблоко» Яўлінскі выказаў асаблівую незадаволенасць у сувязі з тым, што ўрад адмовіўся ад спроб зменшыць колькасць незабяспечаных грошай у бюджэце. Лідэр КПРФ Зюганаў заявіў, што бюджэт не будзе выкананы ні па аднаму артыкулу таму, што рэальная інфляцыя будзе, на яго думку, значна вышэй, чым прадугледжаныя бюджэтным праектам 6—8 працэнтаў у год. Першы віцэ-прэм'ер Нямцоў вітаў прыняцце бюджэту.

**«ТАМІЛЬСКІЯ ТЫГРЫ» ЗНОЎ НАГАДАЛІ АБ САБЕ**

28 чалавек забіты і 230 паранены ў выніку выбуху, які адбыўся ў сталіцы Шры-Ланкі Каломба. Выбуховае ўстройства было закладзена ў аўтобус, прыпаркаваны побач з чыгуначным вакзалам у цэнтры горада. Выбухам пашкоджана некалькі будынкаў і знішчана больш за 40 аўтамабіляў. Паліцыя мяркуе, што тэракт арганізаваны экстрэмістамі з арганізацыі «Тамільскія тыгры».

**КІТАЙ СКАРАЧАЕ АРМІЮ І ПАВЯЛІЧВАЕ ВЫДАТКІ НА ЯЕ ЎТРЫМАННЕ**

Кітай скароціць колькасць узброеных сіл на паўмільёна чалавек за тры гады, заявіў прэм'ер КНР Лі Пэн падчас выступлення на сесіі Усекітайскага сходу народных прадстаўнікоў. Па слвоах Лі Пэна, скарачэнне трохмільённай арміі неабходна ў мэтах яе мадэрнізацыі і павышэння тэхнічнай аснашчанасці.

Дзяржбюджэт на 1998 год будзе прадстаўлены дэпутатам ужо сёння. Чакаецца, што выдаткі на абарону будуць павялічаны на 13 працэнтаў у параўнанні з мінулым годам.

**КРЫЎДЗІЦЕЛЬ СПІЛБЕРГА ПРЫЗНАНЫ ВІНАВАТЫМ**

Рашэннем суда прысяжных прызнаны вінаватым Джонатан Норман, які праследаваў вядомага рэжысёра Сціvена Спілберга. Норман, па словах яго абвінаваўцаў, задумваў насмяяцца з аўтара знакамітых «Сківіц» і «Зорных войнаў». Норман быў затрыманы паліцыяй пасля таго, як ён двойчы летам мінулага года паспрабаваў пранікнуць на тэрыторыю дома Спілберга. Што датычыцца самога рэжысёра, то ён, мяркуючы па ўсім, не на жарт спужаўся. У ходзе судовага разбору Спілберг заявіў, што Норман выбраў яго ў якасці сваёй ахвяры і што ад сваіх намераў наўрад ці адмовіцца.

Улічваючы тое, што Норман ужо двойчы быў асуджаны па крымінальных артыкулах, ён можа быць прысуджаны да пажыццёвага турэмнага зняволення.

**Паводле паведамленняў радыё «Свабода», «Голас Амерыкі» і «Радыё-РОКС».**

# АРЫШТАВАНЫ АДЗІН З КІРАЎНІКОЎ «БЕЛАРУСЬНАФТЫ»

Пракуратура Гомельскай вобласці выдала санкцыю на арышт намесніка генеральнага дырэктара вытворчага аб'яднання «Беларусьнафта» Уладзіміра Налегача. Ён курыраваў у аб'яднанні сацыяльную сферу, яму інкрымінуецца выкарыстанне службовага становішча ў асабістых мэтах.

**Віктар КОТАЎ, БЕЛТА.**

# «ХТО ДУРЫЦЬ ЛЮДЗЕЙ?»

**Працягваем друкаваць афіцыйныя адказы на публікацыю нашай газеты за 7 лютага адносна дзейнасці на Беларусі іншаземнай фірмы «Бума ЛЛЦ». Як мы і меркавалі, «гульня», якую разгарнула гэта фірма, аказалася без правілаў, аб чым сведчаць наступныя пісьмы афіцыйных асоб.**

«2-04/240 ад 27.02.98

У сувязі з паступаючымі шматлікімі скаргамі ад грамадзян на дзейнасць замежнага прадпрыемства «Бума ЛЛЦ» (Францыя) у частцы правядзення рэкламнай гульні паведамляем, што ўказанае прадпрыемства зарэгістравана ў Міністэрстве знешнеэканамічных сувязяў Рэспублікі Беларусь (рэгістрацыйны нумар 1489 ад 29.04.97). Юрыдычны адрас: згодна з рэгістрацыяй — вул. В. Харужай, 3, фактычнае месцазнаходжанне — вул. Кульман, 2.

Ліцэнзія № 4800, на якую даецца спасылка ў рэкламных аб'явах ЗП «Бума ЛЛЦ» у Вашай газеце, выдадзена Мінгарвыканкамам 27.11.97 на розничны гандаль прамтаварамі праз паштовае аддзяленне. Выкарыстоўваючы гэтую ліцэнзію, ЗП «Бума ЛЛЦ» праводзіць у сродках масавай інфармацыі рэкламную гульню, якая з'яўляецца, згодна з тлумачэннямі Міністэрства фінансаў Рэспублікі Беларусь, латарэяй, для правядзення якой патрэбны спецыяльны дазвол.

Такім чынам, ЗП «Бума ЛЛЦ», ажыццяўляючы дзейнасць без належнага дазволу і не забяспечыўшы пры гэтым размяшчэнне сваіх органаў кіравання, а таксама дакументаў бухгалтарскага ўліку і справаздачнасці па юрыдычнаму адрасу, парушае п. 2.1 Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь № 208 ад 24.05.96 «Аб некаторых мерах па ўпарадкаванню дзейнасці суб'ектаў гаспадарання».

Мінгарвыканкам накіраваў пісьмо ў Дзяржаўны камітэт Рэспублікі Беларусь па друку з прапановай прыняць меры па прыпыненню ў друку гэтай рэкламы ЗП «Бума ЛЛЦ». Адначасова Мінскім гарадскім тэрытарыяльным камітэтам прадпрымальніцтва і інвестыцый выдадзена адпаведнае прадпісанне рэдакцыям газет «Народная газета», «Рэспубліка», «Советская Белоруссия», «Семь дней», на старонках якіх была размешчана рэклама фірмы.

Мінгарвыканкам накіраваў таксама пісьмо ў Міністэрства знешнеэканамічных сувязяў Рэспублікі Беларусь з прапановай разгледзець пытанне аб ліквідацыі за адзначаныя парушэнні гэтага суб'екта гаспадарання.

Сапраўдную інфармацыю просім апублікаваць у бліжэйшым нумары Вашай газеты.

*Начальнік ліцэнзійнага аддзела Мінскага гарадскога тэрытарыяльнага камітэта прадпрымальніцтва і інвестыцый В. В. Доўнар».*

«05-02/470 ад 23.02.98

Міністэрства прадпрымальніцтва і інвестыцый, разгледзеўшы Ваша пісьмо, паведамляе.

Пытанні, узнятыя ў вашым пісьме, вельмі важныя, таму што закранаюць інтарэсы многіх грамадзян Рэспублікі Беларусь.

Што датычыцца адказаў на канкрэтна пастаўленыя пытанні (ці ёсць парушэнні ў фармулёўках ліцэнзіі, ці адпавядае від дзейнасці ліцэнзіі, ці з'яўляецца гульня латарэяй і г. д.), дык яны не ўваходзяць у кампетэнцыю міністэрства.

Разам з тым у міністэрстве цяпер праводзіцца праверка на адпаведнасць рэкламных аб'яў замежных прадпрыемстваў «Пакупкі на дом» і «Бума ЛЛЦ» Закону Рэспублікі Беларусь «Аб рэкламе».

*Міністр А. Ю. Сазонаў».*

**Мы не каменціруем гэтыя пісьмы. Адзначым толькі, што з Мінскага гарадскога тэрытарыяльнага камітэта прадпрымальніцтва і інвестыцый амаль адначасова мы атрымалі тры(!) адказы. Чакаем лісты з Мінфіна, Міністэрства знешніх эканамічных сувязяў, пракуратуры. Мы маем намер адказаць чытачам на пытанне, якое стаіць у пачатку гэтай публікацыі.**

**Віктар ХУРСІК.**

# У СПЕКТРЫ НАЦЫЯНАЛЬНЫХ ТРАДЫЦЫЙ, У ПЛЫНІ РЭАЛІСТЫЧНАГА ЖЫВАПІСУ

**Усяго месяц з невялікім таму ў залах Малога манежа ў Маскве была адкрыта Расійска-беларуская выстаўка твораў жывапісу пад шматзначнай назвай — «Славянскіх гарадоў нязгасны вянец». На ёй было прадстаўлена больш за 300 работ вядомых жывапісцаў Расіі і Беларусі.**

У прэс-рэлізе, падрыхтаваным да падзеі, паведамлялася: «Гэтай экспазіцыяй Камітэт руска-славянскага мастацтва працягвае рэалізацыю праграмы «Мастакі Расіі», прысвечаную захаванню і развіццю лепшых традыцый рускай рэалістычнай школы жывапісу. Выстаўка заклікана выявіць і ўмацаваць агульнаславянскія карані жывапіснай школы, якая ўзнікла і развіваецца па ўсёй тэрыторыі былога СССР і якая арганічна аб'яднала ў сабе самабытную культурную спадчыну старажытных славян і праваслаўнага саборнага духу з высокімі прыкладамі мастацкай культуры Усходу і Захаду».

Як пісала расійская прэса, беларускі бок на той выстаўцы быў прадстаўлены не так шырока, як хацелася б. У прыватнасці, адзначалася, што адсутнічалі работы вядомых беларускіх майстроў. Але ж у кантэксце актуальнай тэмы аб'яднання двух народаў — рускага і беларускага — выстаўка з цікавасцю была ўспрынята ў Маскве. Тым больш, што пасля распаду СССР існаваў пэўны культурны вакуум у адносінах паміж былымі рэспублікамі былой вялікай краіны.

Маскоўская экспазіцыя дзейнічала не без поспеху да 12 лютага. І, па словах галоўнай натхняльніцы гэтай культурна-палітычнай акцыі мастацтвазнаўцы Валянціны Жылянковай, выстаўка павінна была адправіцца ў Мінск і адкрыцца там да 3 ліпеня — Дня незалежнасці Беларусі.

Аднак здарылася неверагоднае, і ўжо 26 лютага ў мінскім Палацы мастацтваў адбылося ўрачыстае адкрыццё нашумелай у Маскве выстаўкі. Праўда, дэманстравалася тут ужо не тая самая экспазіцыя. Міністэрства культуры Беларусі ўнесла свае карэктывы, і ў выніку на суд гледача былі прадстаўлены 120 жывапісных твораў — пароўну ад беларускага і расійскага боку.

Разам з вядомай карцінай народнага мастака СССР, акадэміка Расійскай акадэміі мастацтваў Уладзіміра Сідарава «Вясна. Высокае неба» не менш значнымі з мастацкага боку выглядаюць творы беларусаў — Юрыя Піскуна, Гаўрылы Вашчанкі, Уладзіміра Кожуха, Віталя Цвіркі, Міколы Ісаёнка... На жаль, выстаўку глядзяць адзінкі, а не сотні гледачоў, як хацелася б гэтага і мастакам, і арганізатарам арыгінальнага праекта. Нічога не зробіш — мастацтвам цікавіцца вельмі невялікая частка грамадства. Але, тым не менш, выстаўка гэта — падзея. Яна — цудоўная магчымасць для гледача і для мастацтвазнаўцаў убачыць дзве нацыянальныя школы жывапісу, дыяпазон магчымасцяў і перспектыў кожнай у сусветным культурным працэсе.

**Таццяна АНТОНАВА.**

*ДАТЫ І ЛЮДЗІ*

# СВОЙ БОЛЬ ЁН ЗАБРАЎ З САБОЙ

**60 гадоў споўнілася б 6 сакавіка былому першаму сакратару Гомельскага абкама КПБ Аляксандру Адамавічу Грахоўскаму.**

Ён пайшоў ад нас у 1991 годзе, роўна за месяц да спынення дзейнасці Камуністычнай партыі Савецкага Саюза. Выпадковасць ці лёс? Хутчэй за ўсё — другое. У такіх людзей выпадковасці, як правіла, выключаны. Лёс рыхтуе ім цярністы шлях, а выпітая чаша рэдка бывае салодкай.

Гісторыя ведае няшмат прыкладаў, калі сын рэпрэсіраванага бацькі потым здолеў стаць партыйным лідэрам вобласці. Да блізкіх сваякоў тых, хто пабываў у сталінскіх засценках, нават пасля іх поўнай рэабілітацыі ставіліся насцярожана. Сашу Грахоўскаму было ўсяго пяць месяцаў, калі па лжываму даносу ў 1938 годзе арыштавалі сакратара сельсавета Адама Грахоўскага, жыхара вёскі Дуброва Жлобінскага раёна.

Дарога ў вялікае жыццё была заказана. Але ён не зламаўся і больш таго — не стаў жорсткім, хоць у тыя гады сыну «ворага народа» дасягнуць хоць бы якіх-небудзь самых нязначных вышынь практычна было немагчыма. Працуючы і пазнаючы навуку завочна, Аляксандр Грахоўскі прайшоў шлях ад брыгадзіра трактарнай брыгады да першага сакратара Гомельскага абкама КПБ.

Сёння на Гомельшчыне яго ўспамінаюць часта. У шчырых размовах і спрэчках людзі, якія ведалі Грахоўскага, нібы прымерваючы яго да цяперашняга часу, разважаюць аб ім па-рознаму. Але ў адным іх меркаванні абавязкова супадаюць — ён ніколі не здрадзіў бы веры і ідэі, за якія аддаў жыццё, не згадзіўся б з лёгкасцю спыніць дзейнасць партыі, як гэта зрабілі ў 1991 годзе некаторыя яго паплечнікі.

Яго галоўным болем, з якім ён жыў апошнія гады, быў Чарнобыль. Узначаліўшы з першых дзён аварыі надзвычайны штаб, ён дні і ночы знаходзіўся ў эпіцэнтры катастрофы. Пакуль на вышэйшых узроўнях вырашалі, якую палітычную афарбоўку надаць таму, што здарылася, Аляксандр Адамавіч займаўся практычнымі справамі, нярэдка беручы на сябе адказнасць за вырашэнне самых нечаканых праблем. Барацьбу за бяспечнае пражыванне насельніцтва на забруджанай тэрыторыі ён вёў да апошніх дзён жыцця. Змагаўся за выдзеленыя «пад Чарнобыль» ліміты, нажываў ворагаў у высокіх інстанцыях, даказваў недасканаласць прынятай канцэпцыі, адбіваўся ад балбатуноў.

Неяк, збіраючыся па справах у Маскву (ён быў дэпутатам Вярхоўнага Савета СССР), сказаў мне: «Паедзем разам, паваджу па высокіх інстанцыях. Убачыш сам, які там «клопат» аб простым чалавеку, пра які дзень і ноч трубіць Гарбачоў...» Не паспелі. Праз некалькі дзён яго не стала, а неўзабаве перастала быць нашай сталіцай і Масква...

**Віктар КОТАЎ, БЕЛТА.**

## Старонка Паўла Глобы

**7 сакавіка, субота**

**РЭКАМЕНДАЦЫІ**. Да абеду не прымайце ніякіх важных рашэнняў. Сёння нельга нічога планаваць, жывіце, як падкажа інтуіцыя. Добра разабрацца ў сваім жыццёвым шляху, ажыццявіць нейкія перамены ў жыцці. Паразважайце над сваім генеалагічным дрэвам, успомніце продкаў, прамедыцыруйце на іх партрэты. Гэта можа вывесці вас на правільнае рашэнне. Дзень, звязаны з ахвяраваннямі і альтруістычнай дзейнасцю. Спрыяльны час для падарожжаў і паездак, сустрэч і новых знаёмстваў. Наведайце рускую паравую лазню. Добра стрыгчы валасы і ногці.

**АДЗЕННЕ**. Перавагу аддайце размытым тонам. Пазбягайце яркіх колераў, асабліва чырвонага і аранжавага.

**ПРЫМЕТЫ**. У гэты дзень сачыце за воблакамі. Выйшаўшы з дому, паглядзіце на неба: форма воблака можа мець для вас сімвалічнае значэнне. Калі ветрам скідвае кнігі, змятае паперу ці разбіваецца посуд — да ўдачы. Вас праследуюць назойлівыя пахі — знак трывогі, чагосьці дрэннага. Калі ў вас ветрам зрывае капялюш, касынку, шалік і г. д. — указанне на тое, што вы прайшлі міма свайго шчасця ці з вас знята абарона.

**СНЫ**. Убачыць некалькі сноў запар — знак спрыяльных перамен у жыцці. Бачыць агонь — да ўдачы і дапамогі. Купацца ў вадзе — да хваробы. Дождж — знак вылячэння і абароны.

**МЕДЫЦЫНА**. Слабы страўнік, 12-персная кішка і грудныя залозы. Не рэкамендуецца біяэнергетычнае ўздзеянне. Добра лячыць касцявую сістэму, чысціць арганізм ад шлакаў і камянёў.

**Падрыхтавана да друку спецыяльна для «Звязды», астралагічным цэнтрам «АРБА».**

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ

## Панядзелак, 9 сакавіка

**Беларускае тэлебачанне**

**7.00** Добрай раніцы, Беларусь!
**8.00** Рэзананс.
**8.50** Тэлебарометр.
**9.05** «Сёння з вамі...»
**9.45** «О вясна, без канца і без краю...»
**9.55** «Я малюю».
**10.20** Серыял «Па той бок рая».
**11.15** Здароўе.
**11.40** Абібок.
**12.10** Тэленавігатар.
**12.30** «А музыка гучыць...»
**13.00, 15.00, 18.00, 0.25** Навіны.
**13.10** «Чапаеў». Маст. фільм.
**14.40** Параграф.
**15.15** Відэакурс французскай мовы.
**15.45** ТБ — школе. Геаграфія Беларусі. 9-ы клас.
**15.15** «О вясна, без канца і без краю...»
**16.30** Рэгіён.
**17.00** Дні Венгрыі ў Беларусі. «Па Венгрыі». Дак. фільм.
**17.30** Госці ў дом.
**18.20** Серыял «Па той бок рая».
**19.20** Беларускі хіт-парад.
**19.25** «Сёння з вамі...»
**20.05** «Марскі бой». Тэлелато.
**20.40** Калыханка.
**21.00** Панарама.
**21.55** «Смяяцца — не грэх».
**22.10** Маст. фільм «Дзевяць дзён аднаго года».
**23.55** Трэці тайм.

**ГРТ**

**9.00, 14.00, 22.35** Навіны.
**9.10** Сялянскія ведамасці.
**9.40** Грай, гармонік, любы!
**10.15** Амерыка з М. Таратутам.
**10.45** «Ад таго, што ў кузні не было цвіка». Мультфільм.
**10.55** «Падводная адысея каманды Кусто». «Скрозь агонь і ваду».
**14.20** Футбольны агляд.
**14.50** КВЗ-асарці.
**15.20** «Паддашак Фруціс».
**15.55** Баявік «Дыназаўр Тэадор Рэкс».
**17.30** Надвор'е.
**17.35** Угадай мелодыю.
**18.10** Маст. фільм «Клеапатра». 1-я серыя.
**19.45** Добрай ночы, малышы!
**20.00** Час.
**20.35** «Клеапатра». 2-я серыя.
**22.45** «Музыка іх сэрцаў».
**0.40** Праграма перадач.

**Расія**

**6.00** Ранішні экспрэс.
**6.50** Служу Айчыне.
**7.20** «Пёс і кот», «Вясёлая карусель». Мультфільмы.
**7.45** «Кучугуры і наваколле». Дак. серыял.
**8.10** «Рускае шчасце». Дак. фільм.
**9.05** Маскі-шоу.
**9.50** Добрай раніцы, краіна.
**10.35** Пошта РТР.
**10.45** «Аншлаг» і К°.
**11.40** Мультфільм.
**12.05** «Там-там».
**13.00, 19.00** Весткі.
**13.30** Фінал Усерасійскага конкурсу «Жанчына-97. Мужчына-97».
**15.05** Серыял «Закон і парадак».
**15.55** Дыялогі пра жывёл. Дак. фільм «Натуральны адбор».
**16.50** Прагноз надвор'я.
**16.55** Відавочнае — неверагоднае. Век XXI.
**17.30** Старая кватэра. Год 1967-ы.
**19.35** «СВ-шоу».
**20.10** 10 гадоў Дому моды «Валянцін Юдашкін».
**23.25** Аўташоу.
**23.55** Своечасова.
**0.25** Прагноз надвор'я.

**Культура**

**7.05** Музычны экспромт.
**7.20** Маст. фільм «Чароўны голас Джэльсаміна». 2-я серыя.
**8.25** Людзі ў модзе.
**8.40** Тэатр аднаго мастака.
**9.00** Тэлесуфлёр.
**9.15** Кніжны кладзезь.
**9.30** Парадоксы гісторыі.
**10.00** Пра карысць традыцый, ці рускія ў Англіі.
**11.05** «Пецярбургскія партрэты».
**11.35** «Культура гарадоў свету».
**11.45** Спектакль «Шчаўкунчык».
**13.00, 21.00** Навіны культуры.
**13.20** Акно ў прыроду.
**13.45** Карацей кажучы.
**14.10** Які малайчына гэты Зошчанка.
**14.50** Мультфільм.
**15.10** Егіпецкія дні і ночы.
**15.30** Фільм-канцэрт «Незвычайны канцэрт».
**17.00** Навіны.
**17.05** «2003». Да 300-годдзя Санкт-Пецярбурга.
**17.15** Міжнародны агляд.
**17.45** «Скарбы Пецярбурга». Да 100-годдзя рускага музея. «Залатое, сіняе, чырвонае...»
**18.00** Дак. фільм «Рускае шчасце».
**18.50** Мультфільм.
**19.00** Цуд-казка.
**19.15** «Шчыра Ваш...» Раман Карцаў.
**20.20** «Пацалунак цыганкі». Любоў Казарноўская. Частка 2-я.
**21.25** «Я геній, Ігар Севяранін». Чытае А. Дзямідава.
**21.35** Маст. фільм «Няскончанае каханне».

**НТБ**

**7.00** Камедыя «Вясна».
**8.45** Мультфільм «Ох і Ах ідуць у паход».
**9.00** Сёння раніцай.
**9.10** Серыял «Круты Уокер: праваруддзе па-тэхаску». «Брацтва» (ЗША).
**10.00** Маст. фільм «Зена — каралева воінаў». 3-я серыя.
**10.45** Мультфільм.
**11.00, 15.00** Сёння ўдзень.
**11.20** Камедыя «Трое ў лодцы, не лічачы сабакі».
**13.35** «Сярэбраны чароўны цырк з Аўстраліі».
**15.20** «Вуліца Сезам».
**15.55** Маскі-шоу.
**17.35** Футбольны клуб.
**18.00, 21.00** Сёння ўвечары.
**18.40** «Лялькі».
**18.50** Мультфільм «Дару табе зорку».
**19.00** Камедыя «Брыльянтавая рука».
**21.35** Серыял «Круты Уокер: праваруддзе па-тэхаску». «Брацтва» (ЗША).
**22.25** Сінеманія: усё пра кіно.
**23.05** Маст. фільм «Чытальніца».

**8-ы канал**

**18.00** Праграма Кенета Копланда.
**18.30** Маст. фільм «Міхайла Ламаносаў». «Вароты вучонасці», 3-я серыя.
**19.45** Аэробіка «Новы Эдэм».
**20.15** Мультсерыял «Ваўчаня».
**20.40** Аўтамабілі і запчасткі.
**20.45** Серыял «Твін Пікс».
**21.45** Праграма Алена Жобера «Палітры». Жан Сімсан Шардэн.
**22.10** Відэатавары. Тэхніка ў быце.
**22.15** Дэтэктыў «Харт і Харт».

**(Заканчэнне на 4-й стар.)**

